


Выданьне менскіх раенных радаў Маладога Фронту

№ 1 сьнежань 1997г.



***Калі нехта кажа бывай***
***Гэта шчэ ня значыць канец***
***І хаця ў канвульсіях край***
***Рана канстатаваць сьмерць***

***І хаця не відаць куды***
***І надзея ні на каго***
***Ты паслухай зьвіняць званы***
***Гэта з намі гаворыць Бог***

***Гэта скрозь цемру прамень***
***Гэта вецер што рве смугу***
***Гэта новы сонечны дзень***
***Гэта праз забароны рух***

***Гэта годна ўзьняты сьцяг***
***Гэта шыхт што гатовы ў бой***
***Гэта крыж на тваіх плячах***
***Гэта людзі разам з табой***

***Гэта тысячы моцных ног***
***Што пячатаюць цьверды рытм***
***Гэта не яны бачыць Бог***
***Гэта мы ГЭТА МЫ!***

*А. Мельніка*





**Лявон БАРШЧЭЎСКІ,**
**в.а.Старшыні БНФ**
**"Адраджэньне".**

# МОЛАДЗЬ І БЕЛАРУСКАЯ ІДЭЯ



У асяродзьдзі прыхільнае да беларускае йдэі моладзі, да якое, спадзяюся, належаць і ўсе без выключэньня маладафронтаўцы, павінна, на маю думку, быць поўная яснасьць ня толькі наконт таго, **за што мы змагаемся**, але й **дзеля каго мы змагаемся ды як мы змагаемся.** Бо сёньня беларускую йдэю мы разумеем у вялікай ступені па-рознаму й яшчэ больш па-рознаму мы разумеем тое асяродзьдзе ("народ"), сярод якога мы мусім рабіць нашую справу. У зьвязку з гэтым хачу выкласьці чытачам свае меркаваньні на гэты конт, якія грунтуюцца на высновах камісіі прапаганды й контрапрапаганды, створанай у верасьні 1997 году пры Сойме БНФ "Адраджэньне".

Найвялікшая праблема ўсяго нацыянальнага руху ў Беларусі ня толькі цяперашняга часу, а й даўнейшых часоў (падзелы Рэчы Паспалітае, паўстаньне Каліноўскага, нашаніўскае Адраджэньне, узьнікненьне Беларускае Народнае Рэспублікі, беларусізацыя 1920-х гадоў) была ня ў тым, што гэты рух узначальвалі ня тыя людзі, ня ў тым, што беларусы ня здолелі стварыць свае беларускія войскі, ня ў тым, што беларусы — народ, зьлеплены зь нейкага іншага цеста, чымся суседнія народы, — а ў тым, што беларуская нацыянальная ідэя не была ў прыймальных формах сфармуляваная й прышчэпленая ўсім пластам тутэйшага насельніцтва. Нашыя чарговыя адраджэнцы імкнуліся выйсьці або на гераічную й бясстрашную частку беларускае шляхты (канец XVIII—сярэдзіна XIX стагодзьдзя) або на беларускамоўнае, але маласьвядомае сялянства (Кастусь Каліноўскі, нашаніўцы), або на сьвядомых адзінак і ў інтэлігенцкім, і ў сялянскім, і ў рабочым, і ў вайсковым асяродзьдзі (стваральнікі БНР, заходнебеларускія грамадоўцы й беларускія нацыянал-камуністы 1920-х—1930-х гадоў, БНФ першых гадоў існаваньня, апазыцыя ў Вярхоўным Савеце XII скліканьня). Усе гэтыя высілкі далі вялікі плён (найперш стварэньне самастойнае Беларускае дзяржавы з усімі яе атрыбутамі ў 1991—92 гадох), але **яны не далі аднаго — перамогі беларускае йдэі ў душах большасьці нашых суродзічаў**. І Лукашэнка зь ягоным рэжымам — гэта **не прычына, а вынік** такога становішча. І калі мы, франтаўцы, не паставім сабе задачу пераламіць яго, нас чакаюць у будучыні новыя лукашэнкі, новыя прарасейскія дыктатарскія або псэўда-дэмакратычныя рэжымы. Пашыраць беларускую йдэю ў сёньняшніх варунках нялегка, але калі гэта рабіць у неадпаведных формах, дык яно неўзабаве ўвогуле зробіцца немагчымым. Мы сёньня маем куды лепшае становішча, чым нават на пачатку 90-х гадоў. Немалая частка беларускае эліты ўжо не адмаўляе самое ідэі самастойнае беларускае дзяржаўнасьці. Гэтую частку нашага народу трэба адно падштурхоўваць да больш грунтоўнага знаёмства зь беларускай гісторыяй, філязофіяй, культурай і разьвейваць у іх ілюзію эканамічнай прадвызначанасьці ўсяго й уся на Беларусі й ва ўсім сьвеце.

Застаецца іншая — і, на жаль, вельмі вялікая — частка нашага насельніцтва. Яе можна ўмоўна падзяліць на наступныя групы: 1) антыбеларускі агрэсіўны люмпэн ("савок"); 2) дэнацыяналізаваны неагрэсіўны люмпэн ("савок-2"); 3) антыбеларускі лібэрал.

Апошняя з названых групаў ня ёсьць надта шматлікая, і ў цэлым яна схільная да эвалюцыянаваньня ў бок ляяльнасьці да беларускае ідэі ды яе носьбітаў ("пусть они там забавляются со своим белорусским языком — главное не это"). Для гэтае групы насельніцтва ня будзе неўспрыймальны лёзунг БЕЛАРУСЬ — НАШ ДОМ (у тым ліку ў сэнсе "Беларусь — наш общак; Россія же нас сожрёт").

У сёньняшніх варунках лёзунг НАШ ДОМ — БЕЛАРУСЬ ёсьць абсалютна пэрспэктыўным лёзунгам і для абедзьвюх групаў люмпэнаў. Найперш таму, што замяталінская прапаганда ніколі ня здолее скампрамэтаваць гэты лёзунг, бо ў вачох беларуса ДОМ ёсьць заўсёды нешта станоўчае. Які іншы ДОМ можа прапанаваць Лукашэнка?

Славянскі? Гэта штосьці абсалютна невыразнае й незразумелае люмпэну. Наш дом — Россия? Дык гэтая "ніша" даўно занятая **Чарнамырдзіным і К°** і ўспрымаецца нашым "саўком" як ня нашае. Лёзунг НАШ ДОМ — БЕЛАРУСЬ лёгка выкарыстоўваць, пісаць усюды, праводзіць пад яго любыя конкурсы, віктарыны, "тусоўкі" і да т.п.

Трэба ведаць, што Уладзімер Караткевіч увёў ва ўжытак "пашыраны" варыянт гэтага лёзунгу — БЕЛАРУСЬ — НАШ ДОМ І ХРАМ (САБОР). Гэты лёзунг прыдатны для агітацыі сярод схільнае да беларускасьці лібэральнае інтэлігенцыі, а таксама сярод заўзятых вернікаў-хрысьціянаў, незалежна ад іхнага ўзросту.

Сярод неагрэсіўнага люмпэну й гае самае не-антыбеларускае інтэлігенцыі (хутчэй больш сталага веку) галоўным агітацыйным лёзунгам мог бы зрабіцца лёзунг, які мы знаходзім яшчэ ў Купалы: **Беларусь — нашая Бацькаўшчына-маці** (варыянт: **Беларусь — нашая маці-краіна, наша Бацькаўшчына**). Гэты лёзунг таксама цяжка здыскрэдытаваць і зьбэсьціць лукашыстам (у т.л. расейскім спэцслужбам), бо **маці й бацька** нясуць у сабе жыцьцяносны пачатак, яны ў абсалютнай

*Працяг на стар. 7*

Алесь МІКУС

# Жодзіна - Менск - Стоўбцы

***10 сьнежня 1997 году адбыуся прабег, арганізаваны «Маладым Фронтам» у падтрымку палітвязьняў В.Лабковіча, А.Шыдлоўскага й В.Кабанчука. На гэтую акцыю улады згналі столькі міліцыі й унутраных войскаў, колькі, напэўна, было на рэдкай апазыцыйнай акцыі.***

Значныя карэктывы ў пачатковы плян прабегу унёс гарвыканкам. Паводле дэкрэту № 5 час пачатку акцыі быу перанесены на дзьве гадзіны пазьней, на 8-ую гадзіну.

Машына зь першымі дзьвюма групамі удзельнікаў прабегу выехала ад Управы БНФ а $6^{50}$. І адразу на пляцу Я.Коласа яна была спыненая постам ДАІ. Па вобшуку шлях быў працягнуты. Затым машыну спынялі ля мікрараёну Усход і на выезьдзе з гораду. Адметна, што на трасе да Жодзіна фронтаўскі легкавік затрымлівалі ледзь не праз кожныя 5 кілямэтраў.

У афіцыйным суправаджэньні прабегу міліцыянцкімі машынамі было адмоўлена. Тым ня менш на працягу усяе акцыі было заўважана столькі аўтамабіляў КДБ і спэцслужбаў, што занатоўка ўсіх іхных нумароў і характарыстык заняла вялікі аркуш.

Склад удзельнікаў прабегу быу прадстаўлены пераважна менскімі радамі МФ. Аднак не ад усіх радаў былі належныя шэсьць чалавек. «Плянкі» паводле колькасьці здолела дасягнуць толькі Сьвіслацкая Рада.

Хоць надвор'е ў дзень прабегу не было вельмі прыдатным, кожная група (у якую ўваходзілі нават дзяўчаты) паляпшала агульны час. Гэта было вельмі важна, бо былі засьцярогі, што прабег можа ня ўкласьціся ў адведзены час ($8^{00}$-$22^{00}$ паводле дэкрэту). Хваляваньні, на шчасьце, ня спраўдзіліся — ужо на падыходзе да Менску час быу нагнаны цалкам.

Калі зьвярнулі зь Берасьцейскае шашы на Стоўбцы, падзеі пачалі разьвівацца як у замежных баевіках. Міліцыянцкія легкавікі, нечакана пад'ехаўшы да бегуноў, перакрылі рух на дарозе. З аднае машыны вылез кіраўнік тамтэйшае міліцыі тав.Лысёнак, пачаў лаяцца, маўляў, усё, пазабаўляліся й досыць, вяртайцеся ў свой Менск. Міліцыянты пачалі чапляцца, ці ёсьць у бегуноў



У момант перадачы эстафэты

ліхтарыкі. Яны былі прад'яўленыя разам з катафотамі на грудзёх і на сьпінах.

На працягу ўсяго прабегу машыны, што праяжджалі міма, усяляк віталі удзельнікаў акцыі: махалі, гудзелі.



Цікава адзначыць, што фінішавалі маладафронтаўцы ажно тры разы. Першы раз фініш мела асноўная група, тая, якой было гэта заплянавана. А $21^{15}$ гэтая група перасякла рысу Стоўбцаў і праз вуліцу Казлова дасягнула галоўнага пляцу гораду. Адметна, што усе прылеглыя да мейсца фінішу вуліцы былі суцэльна ачэпленыя ўнутранымі войскамі. Непадалек у грузавіку напагатове сядзелі АМАПаўцы. Праз кардоны ніхто зь мінакоў да пляцу трапіць ня мог. Але «калі гара ня йдзе да Магамэта, значыцца, Магамэт пойдзе да гары». У маладафронтаўцаў заставалася блізу паўгадзіны, й гэта было эфэктоўна выкарыстана — зь сьцягамі й нацыяналістычнымі воклічамі ў цямрэчы па Стоўбцах насіліся нашыя легкавікі з запаленымі фарамі. Перапалоханыя ад нечаканасьці праходні шарахаліся ад кавалькады ва ўсе бакі. Па шляху заехалі да сям'і Шыдлоўскіх, падбадзёрылі бацькоў зьняволенага.

Трэба адзначыць, што відэаапэратарам было загадана зафіксаваць хоць аднога ўпалага пад час прабегу маладафронтаўца. Потым гэтыя кадры меліся быць растыражаваныя праз АТН. Але маладыя патрыёты ў бруд тварам ня ўдарылі — увесь шлях прайшоў з годна ўзьнятымі галовамі.

Па прабегу ля кінатэатру «Кастрычнік» была спроба канфіскаваць відэакасэту ў апэратара С.Чырыка. Ажыцьцявіць гэта кадэбістам не ўдалося.

Калі меркаваць паводле колькасьці прысутных міліцыянтаў ды кадэбістаў на прабегу, дык улады вельмі спалохаліся, хоць рэзананс ад гэтае акцыі ня быў гучны — кароткія весткі зьявіліся толькі на РТР і ТВ-6. Уплывовыя каналы ОРТ ды НТВ індыфэрэнтна зрабілі выгляд, што нічога не адбылося. Як быццам не зьбіралі маладафронтаўцы подпісы за П.Шарамета й не выгукалі на маніфэстацыях «Жыве НТВ!».

Алесь КАВАЛЬ

# МІТЫНГОЎЦАМ «ШЫЛІ» КРЫМІНАЛ



• На думку нашых праваахоўных органаў, менавіта гэтак выглядаюць "крымінальнікі".

Адметна, што судзілішча пачалося 30 лістапада, на Дзень ахвяраў палітычных рэпрэсіяў. Судзьдзя зачытаў канчатковае абвінавачваньне, напісанае менскім пракурорам тав. Купрыянавым. Пры прадстаўленьні падсудных высьветлілася, што органы ня могуць абыйсьціся безь перакладніка зь беларускае мовы. Сумны пачатак 15-дзённае справы.

Назаўтра заслухоўваюць нашыя паказаньні. Ніхто віны за сабой не прызнаў. Толькі Уладзімер Лыско згадзіўся, што замахнуўся на міліцыянта канчаром кію ды выходзіў ненадоўга на дарогу.

3 лістапада на хадайніцтва Надзеі Дударавай сьведкамі былі дапушчаныя спсп. Л.Баршчэўскі, Ю.Беленькі, А.Бяляцкі, В.Голубеў, Г.Карпенка. Іхныя паказаньні засьведчылі парушэньні законаў толькі з боку ўладаў.

4 лістапада ад падсудных сьведкамі выступілі назіральніца ад БГК спн.Масюта й сп.Семяняка. Апошні, як арганізатар акцыі 23 сакавіка, распавёў аб сваім увязьненьні наконадні яе, што пацьвердзіла падрыхтоўку рэжымам правакацыі загадзя.

5 лістапада пацярпелы мент Карнэка паказаў, што яму пырснулі газам у твар, Паліліся сьлёзы. Тады далі кухталя ў плечы. Ен не абарочваўся, але выцер кулаком сьлёзы й убачыў ззаду Алеся Бондарава, які ўцякаў. Адзіным рэчавым доказам у справе была куртка Алеся й тры ягоныя вязаныя шапачкі, здабытыя прыператрусе. Напэўна, нас палічылі за гангстэраў.

6 лістапада «мой» пацярпелы, сьведка Штэнь, прыйшоў увесь зьбіты, у гузаках. А сам, дарэчы, камандзер падразьдзелу АМАПу.



• У чаканьні прысуду

10 лістапада праглядалі відэаматар'ял. На ўсей касэце можна было разгледзець хіба што трох зь пяці падсудных, дый толькі адзін зь іх робіць нешта, што можна палічыць за парушэньне. Потым зачыталі паказаньні яшчэ двох сьведкаў-міліцыянтаў, якія звольніліся, й знайсьці іх нібыта было немагчыма.

11 лістапада пракурор у сваім выступе папрасіў прызначыць: двайм 3 гады ўмоўна, аднаму 3 гады з адтэрміноўкай у два гады, двайм 2 гады з гэткай самай адтэрміноўкай.

12 лістапада прамаўляла абаронца ад БГК Н.Дударава, якую ад сярэдзіны справы не дапускалі нас абараняць. Пасьля ейнае прамовы судзьдзя абвясьціў, што заводзіць на яе справу за зьнявагу суду.

Паказаньні сьведак былі надта ж блытаныя: на сьледзтвах яны казалі адное, пры апазнаньні другое, падчас суду — трэйцяе. Прывяду прыклад відавочнае хлусьні аднаго зь сьведак, міліцыянта Касьпяровіча.

Назаўтра пасьля мітынгу на допыце ён паказаў, што з сваім зьвязам прыбыў на пл.Незалежнасьці блізу дзявятае гадзіны.Там мноства людзей спрабавалі выйсьці на прашпэкт, што вымусіла міліцыянтаў ужыць сілу. Але вядома, што тыя падзеі пачаліся каля 11-ае гадзіны. Гэткім чынам, тав.Касьпяровіч — нібы прывід: дзе ён ёсьць, там яго няма. Таму назавем яго Каспэрам, у гонар аднайменнага героя мультсэрыялу. Рацыйнасьць гэткага азначэньня цьвердзіць наступная ягоная блытаніна: Каспэр з Штэнем вялі нейкага затрыманага да машыны, й ў гэты момант на іх напалі, яны падвялі яго да машыны, але не пасьпехі адчыніць заднія дзьверы, як на іх напалі; тыя дзьверы не адчыняліся, яны сталі абыходзіць машыну да іншых дзьвераў, і на іх напалі.

Яшчэ Каспэр паказаў, што я ня вельмі дужы. Але ў гэты ж час апісаў нейкі фантастычны прыхват, ужыты мной, на які здольныя хіба супрацоўнікі звышзасакрэчаных падразьдзелаў. Каспэр сам гэтага дзеяньня ня бачыў, бо быў у шаломе, але, маўляў, здагадаўся паводле сваіх прафэсійных навыкаў (экстрасэнс проста нейкі!). Мабыць, гэткай жа здагадкай быў і напад. Карацей, нельга вылучыць і таго, што Каспэр увогуле ў той дзень ня нёс службы ў раёне падзеяў.

14 лістапада «імем Рэспублкі Беларусь» суд прысудзіў Р.Кійко й Уладзімеру Лыско па 2 гады зьняволеньня ўмоўна; А.Бондараву, А.Сарокіну й мне — па 2 гады папраўчых працаў. А тое, што асуджаныя не палічылі сябе вінаватымі, тав.судзьдзя палічыў за «спробу пазьбегнуць адказнасьці за учыненае».

# Калёнка навінаў

Пасьля менскае акцыі 12 кастрычніка ў лік арыштаваных трапіў і 22-гадовы бабруйчанін, выпускнік БДПА Вадзім КАБАНЧУК, які дагэтуль утрымліваецца за кратамі паводле абвінавачваньня ў аказаньні супраціву міліцыянтам 23 сакавіка. У пачатку лістапада яму ў вязьніцу кіраўніцтвам «МФ» былі перададзеныя каштоўныя лекі — Кабанчук мае надзвычай хворае здароўе.

***У падтрымку маладых палітвязьняў ужо падпісаліся больш за 7 тысячаў чалавек. Па ўсёй краіне маюцца назьбіраць тысячаў з дваццаць. Да нядаўняга часу мінакі ня надта ахвотна падпісваліся з-за няведаньня сутнасьці гэтае справы. Але недахоп інфармацыі мае быць ліквідаваны: ужо выпрацоўваецца думка пра выраб плякатаў з газэтнымі артыкуламі, прысьвечанымі «стаўбцоўскай справе».***

Славутая ўкраінская арганізацыя УНА (палітычнае крыло УНА-УНСО) зьбіраецца ініцыяваць стварэньне «Інтэрнацыяналу пакрыўджаных», куды павінны ўвайсьці краіны Закаўказьзя, Ічкерыя, Прыднястроўе, Югаславія, Беларусь, Украіна — ўсе тыя, хто пацярпеў ад расейскае экспансіі. (Паводле паведамленьня Interfax.)

***Разьвіцьцём ідэі "пялегаваньня лукамолу, як пялегаваньня вельмі карыснага пудзіла" ўшчыльную заняліся сябры Віцебскае філіі МФ. Усей сваей суполкай яны уступші ў арганізацыю БПСМ тамтэйшага пэдінстытуту. І недарэмна — заняўшы там высокія пасады, яны ужо адзначыліся ладжаньнем праз гэта ўласнае маладафронтаўскае дыскатэкі.***

На Другую сустрэчу беларускае моладзі сьвету, што адбудзецца неўзабаве, квота ўдзельнікаў ад «Маладога Фронту» была павялічаная да 15 чалавек. А рэпрэзэнтанты беларускае левае арганізацыі «Чырвоны Жонд» у гэтым форуме ўдзел браць ня будуць. Ім адмоўлена з прычыны антыдзяржаўніцкіх мэтаў гэтага анархісцкага згуртаваньня.



# З КІМ СЯБРУЕ ЛДПБ?

Вельмі важны дакумант трапіў у нашую рэдакцыю зусім нядаўна. На афіцыйным блянку згаданае арганізацыі, зь пячаткай і подпісам С.Гайдукевіча выкладзеныя вельмі цікавыя думкі. Цытуем паводле мовы арыгіналу: «Первому вице-премьер-министру Российской Федерации А.Чубайсу. Большое спасибо за переданное послание. С глубоким удовлетворением Высший Совет ЛДПБ рассмотрел предложения, представленные Вашим представителем. Однако мы считаем, что необходимо к вопросам транзита через РБ относится немного по-другому.(...) Официальный ответ ВС ЛДПБ будет передан в ближайшее время через известного Вам человека. С. Гайдукевич. »

Сутнасьць і перадгісторыя гэтага дакуманту, хутчэй за усё, гэткая: прадстаўнік Чубайса прыяжджаў на Беларусь, каб «памацаць» глебу на прадмет падтрымкі тутэйшымі русафіламі амбіцыяў расейскіх капіталістых, што датычыцца бясплатнага транзыту праз Беларусь. Як бачна, пазыцыя ЛДПБ з гэтым крыху не супадае, што ўхвальна. Але насьцярожваюць гэткія шчыльныя сувязі Гайдукевіча з Чубайсам. Бо апошні даўно ўжо атаясамляецца з нахабным расейскім капіталізмам наогул, і зь лябістамі капіталістычных інтарэсаў у расейскім ўрадзе, ў прыватнасьці. І сёньня, калі праз уласную нямогласьць у нашых памяркоўных апазыцыянэраў адраджаюцца спадзевы на ўсходніх дэмакратаў, вельмі важна ўсьвядоміць тую небясьпеку, якую яны нясуць нам. І гэтая элдэпэбэшная цыдулка яшчэ й яшчэ раз падкрэсьлівае, што расейскае стаўленьне да Беларусі — вылучна прагматычна-спажывецкае. А таму, хто гэтага нібыта ня бачыць, ня мейсца у Нашым Руху.

**Рэдакцыя.**

## ПІКЕТ НА ЎСКРАІНЕ

7 лістапада Койданаўская Рада «МФ» ладзіла 2 пікеты ў абарону палітвязьняў. Натуральна, В.Чыкін даў дазвол пікетаваць толькі паводле мейсца жыхарства замоўцаў. І калі ў зьвязку з гэтым адное пікетаваньне адбылося ў мейсцы досыць людным, дык: другое—ажно на вуліцы Карпава, дзе з аднога боку трохпавярховыя дамы, а зь другога—сквэр. Адметна, што «койданаўскімі» маладафронтаўцамі былі вынайдзеныя некалькі арыгінальных вырашэньняў аздабленьня акцыяў гэткага кшталту. Каб не стамляць рукі доўгачасовым трыманьнем плякатаў, паміж дзьвума дрэвамі была нацягнутая вяруга, да якой і прымацавалі плякаты. Граў магнітафон, ствараючы даволі прыязную атмасфэру. Міліцыянты, што прыяжджалі правяраць санкцыю, ніяк не адрэагавалі на .трыманьне нацыянальнага сьцягу. Карацей, часьцей хадзіце на пікеты.

**Алесь МІКСОВІЧ**




# Дзевяць слупоў кансэрватызму

*29.09-2.10.97 беларуская сталіца ветліва прыймала сяброў з краіны далёкага замежжа - прадстаўнікоў партыі ангельскіх кансэрватараў, сяброў арганізацыі "Young Europeans for Security".*

*Гэтая арганізацыя ўтварылася ў 1993 годзе і з таго часу перарасла ў самую ўплывовую арганізацыю сярод маладых кансэрватараў Эўропы. Сёньняшнія лідары працягваюць палітыку Маргарэт Тэтчэр, ісляндзкага прэм'ера Дэвіда Одсана, чэскага прэм'ера Вацлава Клаўса і інш.*

*Маладыя Кансэрватары Эўропы маюць за мэту падтрымліваць каштоўнасьці й прынцыпы кансэрватызму сярод нацыяў Эўропы й міжнародных арганізацыяў сьвету. Асноўнымі зь іх зьяўляюцца:*

**1.Нацыяналізм**

Прадстаўнічая дэмакратыя толькі тады можа існаваць і функцыянаваць, калі людзі аб'яднаны нечым агульным, каб падпарадкоўвацца агульным ураду й законам. Кожная нацыя павінна быць вольнай у фармаваньні незалежнае й самастойнае дзяржавы. Межы дзяржавы мусяць як мага дакладней адлюстроўваць жаданьні людзей, што жывуць на яе тэрыторыі.

Накладаньне наддзяржаўных структураў, якія кіруюць незалежнымі дзяржавамі, — гэта недэмакратычна й непрактычна. Міжнародная каапэрацыя павінна абапірацца на свабоднае супрацоўніцтва паміж незалежнымі краінамі, а не на наддзяржаўныя органы.

**2.Дэмакратыя**

Па-сапраўднаму адказная дэмакратыя лепш за ўсё квітнее ў плюралістычным грамадстве, дзе рашэньні прыймаюцца як мага бліжэй да тых, на каго будуць мець уплыў. Улада мусіць быць падзеленая паміж рознымі галінамі - урадам і няўрадавымі арганізацыямі, якія ёсьць неабходнай умовай існаваньня здаровага грамадства. Урад павінен разумець тую паважную ролю, што адыгрываюць няўрадавыя ўстановы ў жыцьці дзяржавы— ўстрымлівацца ад дзеяньняў там, дзе яны не абавязковыя.

**3.Свабода**

Людзі павінны быць свабодныя ў межах, абумоўленых законам, што дзейнічае у згодзе зь іхнымі пажаданьнямі, калі гэта не абмяжоўвае свабоды астатніх.

Да гарантаваных свабодаў адносяцца: свабода перамяшчэньня (у межах краіны, магчымасьць пакінуць і вярнуцца ў краіну), свабода рэлігіі і багаслужбаў; свабода слова й публікацыі; свабода сходаў і арганізацыяў; свабода далучацца да кожных прафсаюзаў; свабода вольна займацца кожным легальным бізнэсам; права мець і перадаваць уласнасьць; свабода ад непатрэбнага або канфіскацыі падаткаабкладаньня; права сыходзіць з працы ці пасады па ўласнаму жаданьню і г.д.

**4.Улада закону**

Існаваньне свабоды й справядлівасьці ў кожным грамадстве цалкам грунтуецца на роўнасьці ўсіх перад законам. Таму законы ў жыцьцё павінны праводзіць незалежныя судовыя ўстановы. Патрабаваньні закону ня могуць быць адсунутыя на другое мейсца ў імядзяржаўных інтарэсаў або зь меркаваньняў папулізму.

**5.Уласнасьць**

У свабоднай дэмакратычнай дзяржаве асобы маюць права захоўваць, перадаваць ці прадаваць права ўласнасьці безь перашкодаў з боку дзяржаўных органаў. Падаткаабкладаньне мусіць выкарыстоўвацца толькі як сродак збору грошай для выкананьня ўладамі іхных абавязкаў і функцыяў.

**6.Традыцыя**

Справядлівасьць і парадак у кожным грамадстве будуюцца на агульнанародных каштоўнасьцях і завядзёнках. Ніводнае грамадства ня можа ігнараваць мудрасьць папярэдніх генэрацыяў, краіна павінна прыняць і культываваць свае традыцыі — сьвецкія й рэлігійныя. Кожная генэрацыя павінна памятаць пра свой абавязак перад тымі, хто быў да іх і хто будзе пасьля.

**7.Сям'я**

Сям'я — гэта вугольны камень грамадства.

На ёй павінны базавацца каштоўнасьці й маральныя нормы грамадства. Урад не павінен умешвацца ў ейны мэханізм і ня браць на сябе яе абавязкаў, акрамя асобных выпадкаў. Таксама ён ня мае права ўмешвацца ў справы тых, хто адмаўляе традыцыйную структуру сям'і.

**8.Свабодны рынак**

Пад свабодным рынкам разумеецца вольны гандаль рэчамі ў сфэры абслугоўваньня й капіталу. Свабодны рынак — гэта ня толькі найбольш эфэктыўны шлях да эканамічнага росту грамадства, але й адзіны шлях да сапраўднае свабоды чалавека. Лепшы шлях да росквіту ўсіх краінаў сьвету - падняць камэрцыю да глябальнага ўзроўню.

**9.Маральнасьць**

Палітычныя структуры маюць базавацца на агульнапрынятым разуменьні добрага й кепскага, дазволенага й недазволенага.

*У самай сваёй аснове гэтыя нормы маюць павагу да жыцьця, праўду, уласнасьць. Яны агульныя для ўсіх рэлігіяў і маральных філязофіяў, у якіх нарадзілася цывілізацыя. Яны сусьветныя й нязьменныя, таму сацыяльны парадак ня можа існаваць бязь іх. Яны павінны быць адлюстраваныя ў заканадаўчых і палітычных установах дзяржавы й выхоўвацца ў грамадзянаў.*

*Вось так, трохі казачна-ідэалістычна для грамадзян былога Саюза, бачаць жыцьцё і ягоныя каштоўнасьці ангельскія прадстаўнікі Эўрапейскіх Маладых Кансэрватараў.*

Аляксей ЯНУКЕВІЧ

# Дняпро цячэ на поўдзень



У мінулым рэкі былі асноўнымі шляхамі зносін паміж народамі і краінамі. Сёньня яны саступілі цягніком, самалётам, хуткасным аўтабанам. Але саступілі яны толькі ў фізычным, так бы мовіць, пляне. На ўзроўні духоўным значэньне рэк як носьбітаў непарыўнасьці сувязяў застаецца. Таму падаецца цалкам зразумелым адчуваньне, што суправаджала нас у цягніку "Менск-Кіеў" у нядзелю, вечарам 19 дня восеньскага месяцу кастрычніка. Адчуваньне, што недзе недалёка, зусім побач,паралельна з намі рухаецца на поўдзень магутная плынь, што менавіта яна вядзе нас наперад і што мы гэтак сама, як і ўсе іншыя людзі ў вагонах, — маленькія кроплі, што належаць гэтае плыні й рухаюцца ў ейным рэчышчы.

Да сёньня я не магу адказаць сам сабе, што было больш значным для мяне ў гэтыя дзесяць дзён у Кіеве: заняткі сэмінару альбо сам факт быцьця на Украіне. Што да вучэбнае часткі — гэта тэма асобнага артыкула, і ня толькі артыкула. Я спадзяюся, мы ўсё ж такі здолеем зрабіць справаздачу менавіта па тэмах сэмінару - ён быў сапраўды карысны. (Тут, дарэчы, будзе падзякаваць кіраўніцтву БНФ за тое, што на сэмінары былі 4 прадстаўнікі МФ - нам сапраўды трэба вучыцца.) Так што ніжэй я прадстаўляю вам свае ўражаньні ад Украіны, яе людзей, яе сталіцы.

Кіеўскі чыгуначны вакзал запомніўся мне перш за ўсё шырокай лесьвіцай і ўкраінскім сьцягам на даху. Пакуль наш куратар з "I.R.I." дамаўляўся з кіроўцам аўтобуса, мы ціха разважалі, ці далёка ад Кіева знаходзіцца Фэофанія і ці будзе магчымасьць адтуль зьездзіць у Кіеў. І калі, пакруціўшы па горадзе, аўтобус спыніўся яўна не перасекшы гарадзкое мяжы, мы трохі зьдзівіліся. Перад намі быў белы пяціпавярховы будынак — звычайны інтэрнат, у якім нам і належыла жыць бліжэйшыя дзесяць дзён. Пасьля агляду пакояў і невялікага адпачынку мы сабраліся ў "кафэ", дзе нас пачаставалі супам і гэткай смачнай тады грэчкай. Харчаваліся мы, дарэчы, нядрэнна: грэчка й салата, а таксама мясныя стравы й гарбата з характэрнымі булкамі нам былі гарантаваныя 3 разы на дзень. Плюс суп і сок на полудзень.

У першы дзень нашага быцьця ў Кіеве адбыўся й першы выезд у цэнтр. У той вечар мы і даведаліся пра высокія кошты ў кіеўскіх аўтобусах, і ў першыню пабачылі вялізны плакат на рэклямным шчыце "Бацькаўшчыну не абіраюць. Абіраюць яе незалежнасьць" — сь сьцягам на фоне неба, і, вядома, спазналі глыбіню кіеўскага мэтро. Потым, прысьвяціўшы прыкладна дзьве гадзіны вывучэньню калёны насупраць паштамту на Майдане Незалежнасьці, мы, праз McDonald's (з мэтай вывучэньня коштаў), паехалі назад.

У аўторак мы сумесна прабылі ўвесь дзень на занятках, а вечарам зноў накіраваліся на Майдан. Гэтае мейсца сапраўды вартае таго, каб наведваць яго штодзень. Шкада, нам не пашчасьціла пабачыць Майдан пры дзённым сьвятле — магчыма, наступным разам.

Серада — вялікі футбольны дзень у Кіеве. Яшчэ з раніцы можна было пабачыць фанатаў з жоўта-блакітнай сымболікай. Пасьля абеду мы сышлі з заняткаў і накіраваліся ў штаб-кватэру Руху. Нашай галоўнай мэтай было дамовіцца з Маладым Рухам аб пікеце, але падсьвядома кожны спадзяваўся, што нейкім чынам мы здолеем

*Працяг на стар. 8*

*Працяг са стар. 2*

## МОЛАДЗЬ І БЕЛАРУСКАЯ ІДЭЯ

большасьці людзей самыя блізкія й любімыя людзі на ўсё жыцьцё.

Нарэшце, лёзунг БЕЛАРУСЫ — ЕЎРАПЕЙСКІ (не "эўрапейскі"!) НАРОД (ідэя Францішка Скарыны) мае асаблівую пэрспэктыўнасьць у прапагандзе менавіта сярод моладзі. І тут ужо адыгралі сваю гістарычную ролю тыя акцыі маладых франтаўцаў, што праходзілі гэтай вясною пад назовам "Беларусь — у Эўропу". Трэба толькі зазначыць, што само словаспалучэньне БЕЛАРУСЬ — У ЭЎРОПУ ня надта дакладнае, бо з Эўропы наша зямля й наш народ нікуды не зьнікалі; яны павінны проста перамагчы ўнутраную акупацыю.

Ці нясуць у сьвятле вышэйсказанага беларускую ідэю да людзей лёзунгі накшталт: ЛУКА — КАЗЁЛ альбо ДАЛОЎ ЛУКУ? Нацыянальнае ідэі, ейнаму пашырэньню яны, на маю думку, **анічога не даюць**, а толькі спрыяюць лукашысцкай прапагандзе, бо паказваюць люмпэну на канкрэтнага ВОРАГА, таго, хто "ему мешает".

Таму, выпускаючы франтаўскі бюлетэнь або выходзячы на вуліцу з балёнчыкам фарбы, або зьбіраючыся нешта скандаваць на дэманстрацыі, або нешта пісаць на плякаце, нам усім варта задумацца над выказанымі вышэй увогуле нескладанымі рэчамі. Што б ні рабіў фронтавец, ён павінен памятаць, што ён адказны за НАЦЫЯНАЛЬНУЮ ІДЭЮ сёньня, што ён робіць тую самую справу, што рабілі й робяць Леў Сапега, Кастусь Каліноўскі, Францішак Багушэвіч, Янка Купала, Антон Луцкевіч, Уладзімер Караткевіч або Зянон Пазьняк.

Напрыканцы, карыстаючыся нагодай, я хацеў бы пажадаць маладым чытачом як найболей розуму, ініцыятыўнасьці, разуменьня слушнасьці тае справы, што мы робім.

МЫ АБАВЯЗКОВА ПЕРАМОЖАМ!



**Дзейнічаць трэба хутка,**
**Дзейнічаць трэба рашуча!**

У. І. Ленін

(ЖАРТ)

*Працяг са стар. 7*

# Дняпро цячэ на поўдзень

атрымаць квіткі на футбол — у касах набыць іх было ўжо немагчыма. Сябры Маладога Руху прынялі нас вельмі цёпла. Чакаючы кіраўніцтва, мы разам сядзелі, пілі каву, слухалі музыку. Потым, калі прыйшоў Д.Зубко, мы адразу дамовіліся пра пікет і... вядома, нам далі чатыры квіткі на футбол. Зразумела, бясплатна. Наогул, трэба адзначыць, Малады Рух ва ўсім нам садзейнічаў і дапамагаў. Там вельмі прыязныя хлопцы і абаяльныя дзяўчаты. Хочацца спадзявацца, што МФ і МР надалей будуць супрацоўнічаць на ўзаемную карысьць.

Мы вышлі са штаб-кватэры Руха за некалькі гадзін да пачатку футбольнага матчу. Адразу разгарнулі бел-чырвона-белы сьцяг і рушылі па бульвары Шаўчэнкі да стадыёну. Амаль што адразу да нас далучылася даволі вялікая (20-30 чалавек) група фанатаў "Дынама", і ўсе разам пайшлі далей — з крыкамі, песьнямі, па ходніках і ня толькі. (Я чуў, у Эўропе ёсьць сталіцы, дзе за такія рэчы можна атрымаць вялізны штраф ці нават трапіць за краты, але шчыра вам кажу, Кіева гэта не датычыцць). На падыходах да стадыёну пачаліся "братаньні" — наш сьцяг пазнавалі й падыходзілі падбадзёрыць, выказаць падтрымку. Характэрны выпадак: група звычайных фанатаў (не нацыяналістаў) некалькі хвілін размаўляла з намі — вядома, вельмі прыязна — па-расейску. І раптам адзін з хлопцаў сказаў: "Вот, ёлки-палки, беларусы по-беларусски разговаривают. Мне стыдно после этого по-руски!" У той дзень мы вярталіся ў свой інтэрнат амаль шчасьлівыя.

А потым пачаліся "вучнёўскія" будні. Хаця былі, канешне, яркія моманты і далей: нядзельная вандроўка па засьнежаным Кіеве ў Лаўру, да Дняпра; Зьезд Руху, сустрэча (асабістая!) з Пазьняком (!) і беларускай дэлегацыяй ад БНФ на зьезьдзе; быў, нарэшце, сумесны з Маладым Рухам пікет у падтрымку хлопцаў — В.Лабковіча, А.Шыдлоўскага, В.Кабанчука. А потым быў, зразумела, ад'езд. На Радзіму. Было вяртаньне ў Менск. Кіеў застаўся за мяжой. Але - сувязь застаецца, можа паехаць на ўсход Беларусі альбо проста ўзяць мапу і ўбачыць на ўсходзе сінюю стужку ракі. Гэта цячэ магутны і велічны Дняпро. Цячэ на поўдзень.



**_Выданьне менскіх раённых радаў Маладога Фронту_**
**_Пры садзеяньні Каардынацыйнага адзьдзелу МФ_**
**_№ 1, сьнежань 1997 г._**
**_Галоўны рэдактар: Алесь Міксовіч_**
**_Рэдакцыйная калегія: В. Рымашэўскі, А. Янукевіч, В. Канапацкі і "другія таварышчы"._**
**_Макетаваньне: Ігар Тышкевіч (МІЦ)_**

*Шчыры дзякуй таксама ўсім хто спрычыніўся да выпуску газэты: Мая Шатохіна, Аліна Шаліна, Маша Вайцяховіч, Вольга Ерахавец*

Падпісана ў друк:
Наклад: 0,9999 паасобнікаў
Друкарня імя Ал. Лукашэнкі